Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 20.000 м. п.



# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень. Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 160.000 м.п. Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. Цана абвестак: перад тэкстам 30.000 мк., сярод тэксту 25.000 м. і на 4 стр. 20.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 7. Вільня, Нядзеля, 18-га лістапада 1923 г. Год I.

## Небясьпечны культ.

Ня гледзячы на тое, што ўваскросшая Польшча зьяўляецца *дэмакратычнай рэспублікай*, ўсё яе дзяржаўнае жыцьцё грунтуецца на дзьвюх *старых традыцыях*, сягаючых на паўтараста гадоў у прошласьць: на традыцыях, *клерыкалізму* і *манархізму*.

Мы сьвядома ўжываем слова „традыцыі“, а не „ідэі“, затым, што клерыкалізм і манархізм вынікаюць не з перакананьняў грамадзянства, а іменна з прывычкі злучаць з імі ўсю мінуўшчыну Польшчы з часоў старое незалежнасьці. На сучасную „новую“ Польшчу з дэмакратычнай рэспубліканскай канстытуцыяй усе палякі прывыклі глядзець, як на натуральнае аднаўленьне і прадоўжаньне „старое“ Польшчы. І такім парадкам той стары клерыкальна-манархічны дух, які панаваў у Польскім гаспадарстве да падзелу яго, аджыў у новых варунках дзяржаўнага істнаваньня, ня гледзячы на тое, што яму на кожным кроку пярэчаць вымогі жыцьця сучасных дэмакратычных рэспублік.

Наскольki гэты дух мае моц і ўплыў на польскае грамадзянства, паказвае факт, што яму зусім пакарыўся нават такі, на пагляд, духова вольны і моцны чалавек, як Язэп Пілсудскі. Гэты рэвалюцыянер і сацыяліст, каторы, не задумываючыся, арганізовываў напады на ўрадовыя почты і казначэйствы дзеля захвату царскіх грошы на рэвалюцыйныя мэты,—калі заняў у адраджонай ім-жа Польшчы найвышэйшае становішча начальніка гаспадарства,—аказаўся няздольным вызваліцца ад традыцыяў старое польскае дзяржаўнасьці і „ажаніў“ дзяржаўную ўладу з клірам. А далей — у часе ўрадаваньня таго-ж Пілсудскага,—мы бачым нічым ня спынянае шырэньне пашаны, культу старога польскага манархізму ў асобе польскіх каралёў. Культ гэты асабліва разьвіваецца ў школах, дзе узгадовываюцца маладыя пакаленьні будучых грамадзян Рэспублікі: ня кажучы ўжо аб падручніках гісторыі, адзначым такі факт, як зьвязываньне гэтых самых школ з іменьнямі польскіх манархаў. Прыкладам, у Вільні маем *унівэрсытэт караля Стэфана Баторага, гімназію караля Зыгмунта Аўгуста*, *вучыцельскую сэмінарыю* для дзяўчат *каралевы Ядвігі* і г. д. І ў той-жа час ўсё больш і больш разьвіваецца тып *клерыкальных школ*—пачатковых і сярэдніх, — школ, якія адкрываюць і кіруюць з матэрыяльнай падмогай ураду езуіты, сёстры Назарэтанкі і г. д.

Гэткую „закваску“ даў „новай“ Польшчы Язэп Пілсудскі, бо сам ня быў вольны ад яе, бо ня мог пераламаць падсьвядомае традыцыі.

Цяперашні ўрад ідзе йшчэ далей у кірунку культываваньня клерыкальна-манархічнага духу сярод грамадзянства. Аб гэтым сьведчаць штодзенныя дробныя, але характэрныя факты, як, прыкладам, пастанова рады міністраў аб наданьні вышэйшым каталіцкім духоўным права езьдзіць па чыгунцы ў вагонах-салёнах—нароўні з прэзыдэнтам і міністрамі, і т. п. А надовячы ўрадовае тэлеграфнае агенцтва (П. А. Т.) разаслала вось гэткую тэлеграму ў-ва ўсе газэты:

„За душу караля Міхала-Карыбута Вішнявецкага, які, як ведама, памёр у Львове, адбылася сяньня, як у 250-ыя ўгодкі ягонае сьмерці, жалобная імша ў архікатадральным касьцеле. Цэлебраваў набажэнства ксёндз інфулат Зайховскі. Пяяў опэрны хор. У набажэнстве прыймалі учасьце: дэлегацыя мястовае рады з віцэ-старшынёй Хламтачам, *вайсковасьць з генаралам Ліндэ* (курсіў наш. *Рэд.*), дэлегацыі таварыстваў і многа публікі. (П. А. Т.)“.

Што радныя места Львова і розныя паны Хламтачы могуць быць манархістамі, — гэта іх прыватная справа. Але што ў мамэнт, калі за заходняй мяжой Польшчы *нямецкія манархісты з аружжам у руках* стараюцца *разваліць сваю Рэспубліку*, — што іменна ў гэты самы мамэнт прадстаўнікі польскае *рэспубліканскае* арміі становяцца на калені перад *„каралеўскім маестатам“* і прыймаюць учасьце ў *манархічнай маніфэстацыі*,—гэта ўжо знак, які павінен будзіць сур'ёзную трывогу ў душы кожнага шчырага дэмакрата і рэспубліканца.

І, ня гледзячы на ўсю сілу клерыкальна-манархічных традыцыяў, сьвядомая частка польскага грамадзянства павінна ўрэшце зразумець, што падтрымліваньне і разьвіваньне гэтых мо' і любых польскаму сэрцу традыцыяў сур'ёзна пагражае самаму істнаваньню Польскае *Рэспублікі*, што можа павясьці „новую“ Польшчу не ўпярод, а назад — за паўтара веку ў прошласьць. Манархічныя традыцыі могуць быць лёгка ператвораны ў *манархічную ідэю*, варожую сучаснай польскай канстытуцыі, і на гэтым ворагі рэспубліканскага ладу—як духоўныя, так і сьвецкія,—могуць спрабаваць зыграць сваю ігру.

Як паказваюць прыведзеныя факты, справе зайшла ўжо даволі далёка: найлепшы доказ гэтага — львоўская манархічная маніфэстацыя, а такжа выкрыты англічанамі манархічны „вялікі зялёны плян“ (—гл. „З газэт“). І мы, гледзячы збоку на польскія палітычныя падзеі, можам толькі сказаць па адрасу тых, каму на гэта належыць зьвярнуць увагу:

„Caveant consules, ne quid detrimenti Respublica capiat!“

## „Ягадкі“ дасьпяваюць...

„Dziennik Wileński“ надовячы надрукаваў зьмест рэфэрату старасты Віленска-Троцкага павету, п. Грабовскага, прачытанага ў эндэцкім „Нацыянальным Клюбе“.

Самы факт выступленьня ўрадоўца на партыйным эндэцкім грунце многа нам гаворыць аб палітычнай лініі п. Грабовскага... А зьмест яго рэфэрату яшчэ выразней рысуе палітычнае аблічча старасты-эндэка.

П. Грабовскі даў абраз дзейнасьці адміністрацыі „на Крэсах“ і тых прычын, якія прымушаюць яго адносіцца крытычна да сучаснага стану нашае адміністрацыі. Зусім справядліва адзначыў ён на пачатку, што ў Польшчы „ўмацавалася бюракратычная сыстэма, да таго прышчапіўся аўстрыяцкі бюракратызм, абапёрты на мёртвых правілах, далёкіх ад жыцьця“. Справядліва такжа заява п. старасты, што за апошнія гады, у сувязі з цэлым радам палітычных перамен на „Усходніх Крэсах“, „павага ўлады ўпадала, лепшыя адзінкі ўцякалі з урадаў“ і г. д. „Усё гэта“,— сказаў п. Грабовскі далей,—„узяўшы разам, паніжае павагу ўрадоўца ў вачох насяленьня і не ўмацовывае нашае (—польскае, *Рэд.*) *дзяржаўнасьці*“.

„Стан такі—небясьпечны, бо процэнт польскага насяленьня вагаецца ад 17 да 60 проц, калі браць пад увагу ўсе ўсходнія ваяводзтвы, пры гэтым *стан усьведамленьня польскае людласьці—ня надта вялікі*“.

З гэтага мамэнту п. староста ўжо пачынае сам адыходзіць і ад жыцьця, і—ад сваіх „дзяржаўных прынцыпаў, якія дагэтуль маглі здавацца болей-меней правільнымі. Дзе ён знашоў гэныя „17—60 проц.“ польскае людласьці ў усходніх ваяводзтвах? Наскольki гэтыя цыфры—фантастычныя, паказываюць яго-ж уласныя далейшыя словы, якія мы падчыркнулі: словы аб тым, што „сьвядомасьць польскае людласьці ня надта вялікая“. Мы скажам болей: сьвядомасьць гэтая ў польскім духу і *ня можа быць вялікай*, бо п. староста шукае яе... у беларусаў, якіх пазволіў сабе залічыць да „польскае людласьці“.

Зрабіўшы гэткую „абмылку“ адносна да нацыянальнага складу „Крэсовых ваяводзтваў“, наш павятовы адміністратар раптам зусім адступаецца ад сваей ідэі ўмацовываньня тут *польскае дзяржаўнасьці* і, замест яе, гаворыць аб спосабах падтрыманьня ў нас *польскасьці*, якое, скажам яшчэ раз, тутака — адна капля на вялізарнае беларускае мора. І праграма п. старасты йдзе далей ужо выразна *не ў дзяржаўным кірунку, а ў чыста нацыяналістычным.*

Перш за ўсё п. Грабовскі дамагаецца, каб урад „акружыў усё, што мае сувязь з падтрыманьнем *польскасьці*, выразнай і моцнай апекай, каб у вачох рознаязычнага насяленьня акружыць Полшчу орэолам сілы і магутнасьці“.

Як быццам польская ўлада дагэтуль паступала інакш! Ды, відаць, п. староста нездаволены з сваей і без таго блізу самадзяржаўнай улады, бо жадае йшчэ больш „моцнае рукі“ дзеля „устрашэньня“ насяленьня. Што-ж: такі курс і ўзяла сучасная большасьць у Сойме і створаны ёю ўрад, дык добры ўрадовец інакш ня можа казаць...

Але ў канцы п. Грабовскі дайшоў да таго, што адкрыта выступае проці самых асноў польскае канстытуцыі адносна непакорных „Крэсаў“: ён ні больш ні менш, як дамагаецца перамены законаў аб выбарах у павятовых Сойміках ў кірунку „падвышэньня цэнзу матэрыяльнага і навуковага, *каб забясьпечыць пераву элемэнтам польскім* і творчым“.

Вось тут „канстытуцыйны“. „дэмакратычны“ і „рэспубліканскі „староста высказаўся да канца! Трэба пазбавіць беларускае сялянства, *як беларускае*, усялякага ўплыву на самаўрады і *даць у апошніх перавагу польскім панам*, якія адны толькі і могуць адпавядаць, калі не навуковаму цэнзу, дык высокаму цэнзу маемасьці. А тады, як самаўрады будуць дудзець у адну дудку з адміністрацыяй, дык і апошняя акажацца добрай..,

Ведама, вывады „палітыка“ — урадоўца эндэцкі Клюб горача падтрымаў і прыняў рэзалюцыю, дамагаючыся перш за ўсё, каб улада ўвяла чыста „польскую сыстэму ўпраўленьня“ (—якая-ж была дагэтуль?!), каб на адміністрацыйныя становішчы назначаліся *тутэйшыя* польскія паны, *а не галічане*, ды каб закон аб выбарах у самаўрады быў зьменены так, каб і ў „сойміках“ запанавалі *паны і вайсковыя*.

З прычыны таго, што эндэкі—гэта цяпер урадовая партыя, выступленьне старасты-эндэка і рэзалюцыя эндэцкага клюбу зварочаюць на сябе асаблівую ўвагу: гэта—*запаведзь* таго, чаго насяленьне „Крэсаў“ можа спадзявацца ад сучаснага ўраду. Аб істнаваньні „найдэмакратычнейшай“ канстытуцыі Польскае Рэспублікі „паны палажэньня“ зусім забываюцца, калі трэба „рабіць польскасьць“ на „Усходніх Крэсах“. І калі канстытуцыя йшчэ істнуе, хоць на паперы, дык гэта— дзеля паказу ў Лізе Нацыяў, дзе гаворыцца аб „раю“ для нацыянальных меншасьцяў Польшчы, забясьпечаным кастытуцыяй..

І хоць п. Гломбіньскі, узяўшы партфэль міністра асьветы ў сучасным урадзе, завяраў беларусаў, што пад новай уладай ім *„горш ня будзе“*,—усё сьведчыць, што *можа быць і яшчэ горш*...

I. М—ка.

***Пішыце да нас аб жыцьці-быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпісчык „Змаганьня“ будзе і яго супрацоўнікам.***

згоду на правядзеньне кантролю аб разаружэньні яе, Барту заявіў, што Францыя лічыць патрэбным акупаваць Франкфурт і даліну Майна.

---

Газэты паведамляюць, што калі Нямеччына не выдаліць б. кронпрынца, дык Францыя пашырыць акупацыю, заняўшы правінцыю над Майнам з Франкфуртам і Гамбурскі порт.

### АНГЛІЯ.

Старшыня ангельскіх міністраў Бальдвін заявіў, што парлямэнт будзе распушчаны ў пятніцу, а выбары ў новы парлямэнт адбудуцца 6-га сьнежня.

---

Паведамляюць, што абодва кірункі ангельскіх лібэралаў Лейд-Джорджа і Асквіта на будучых выбарах выступяць аб'яднана.

---

Партыя працы ўнясла ў парлямэнт прапазыцыю аб выражэньні недаверыя ўраду, лічучы, што ўрад не заняўся найважнейшым заданьнем часу—безрабоцьцем.

### ГІШПАНІЯ.

Абвешчаны дэкрэт, якім касуюцца ўсе парлямэнцкія камісіі.

## З Польскага Сойму.

Паседжаньне Сойму 13-га лістапада было асабліва бурным. Унесена было шмат інтэрпэляцыяў у справе крывавых выпадкаў у Кракаве і прапазыцыя паслоў P.P.S. аб тым, каб урад падаўся ў адстаўку. Пасьля ратыфікацыі гандлёвай умовы з Югаславіяй і ўхваленьні ў другім чытаньні ўставы аб інвалідах, слова ўзяў міністар унутраных спраў **Кернік**. Як толькі Кернік узышоў на трыбуну на лявіцы распачаўся вялізарны шум і крыкі: Забойца работнікаў! У адстаўку! Прэч з правакатарам! Міністар адчытаў сваю прамову стэнаграфу сярод няспыняючагася галасу, за якім ня чуваць было ніводнага слова. Міністар закончыў сваю прамову сярод няспыняючагася біцьця ў пюльпіты на лявіцы, якая пад самы канец запяяла: „O cześć wam panowie“.

Як відаць з стэнаграмы п. Кернік хацеў сказаць, што ад пачатку кастрычніка распачаўся забастовачны рух, які тлумачыўся ўзростам дарагоўлі; па зьліквідаваньні забастовак капальняных работнікаў можна было лічыць увесь рух зьліквідаваным, але раптам распачалася забастоўка чугуншчыкаў. Урад змушаны быў прызваць рэзэрвістаў-чугуншчыкаў. Гэта выклікала крытыку з боку лявіцы, што прычынілася да ўхіленьня некаторымі чугуншчыкамі ад выпаўненьня гэтага загаду; такім чынам стварылася неабходнасьць увядзеньня палявых судоў. Абвешчаная на 5-га лістапада генаральная забастоўка давяла да вядомых выпадкаў у Кракаве, Тарнове і Барыславе. Віну за крывавыя выпадкі п. Кернік ускладае на палітычных агітатараў. Зазначыўшы, што на мітынгах работнікі дамагаліся адстаўкі сучаснага ўраду, міністар цьвердзіць, што атака на войска была падрыхтована згодна з вымаганьнямі ваеннай тактыкі. Упамянуўшы, што ўрад вядзе сьледзтва для ўкараньня вінаватых у Кракаўскіх выпадках, пан міністар заявіў, што ўрад выступіць процій усялякіх спробаў выклікаць забурэньні ўва унутраным жыцьці дзяржавы.

Пасол **Конопчынскі** (эндэк) бачыць у Кракаўскіх выпадках варожую заграничную руку, чаму дапамаглі P.P.S. і дамагаецца жорсткіх рэпрэсыяў. Польшча ня можа дапусьціць, каб Кракаў стаўся тым, чым Дрэздэн у Нямеччыне.

Пасол **Чапінскі** (P.P.S.) дамагаецца адстаўкі ўраду, як галоўнага вінавайцы праступленьняў. Урад сваей палітыкай выклікаў дарагоўлю і пхнуў галодныя масы распачаць забастоўку. Урад бясправўна ўвёў мілітарызацыю і палявыя суды, ломячы канстытуцыю. Урад сваей няздольнасьцю і правакатарскай палітыкай выклікаў разьню. Польскі работнік шануе жаўнера, але ўрад сваей палітыкай робіць з жаўнераў выканаўцаў крывавых клясовых парахункаў і капае пропасьць паміж жаўнерамі і народам. Пан Віклінскі лічыць, што трэба адразу страляць баявымі патронамі і то ня ўгору, а проста ў грудзі работнікаў. Правыя газэты шкадуюць, што войска мала страляла і абастраюць адносіны паміж войскам і работнікамі. Гэта робіцца для пашырэньня фашыстаўскай агітацыі ў войску. Адказнасьць за кроў работнікаў і жаўнераў падае на ўрад. Нарэшце п. Чапінскі ўносіць гэткую прапазыцыю: „Сойм сьцьвярджае, што сучасны ўрад сваей палітыкай падатковых прывілеяў выклікаў сучасную дарагоўлю і работніцкія забастоўкі. Урад у барацьбе з ахвярамі сваей палітыкі стаптаў законы, зламаў Канстытуцыю ў бясправўным аб'вяшчэньні палявых судоў і выклікаў страшную братабойчую разьню ў Кракаве, Барыславе і Тарнове. Дзеля гэтага Сойм адкідае заяву п. міністра Керніка і заклікае ўрад выйсьці ў адстаўку“...

Пасьля прамовы пасла **Строньскага**, (х.-д.) які бараніў сучасны ўрад, на трыбуну ўзыходзіць пасол **Марак** (P.P.S.). Правіца распачала страшэнны галас і нядала магчымасьці гаварыць гэтаму паслу. На гэтым віцэ-маршалак Сэйда зачыніў паседжаньне.

---

Канстытуцыйная Камісія вяла абрады над уставай аб сабраньнях. Пасол кс. Лютаслаўскі запрапанаваў, каб справаздаўчыя пасольскія сабраньні адбываліся ў такіх самых варунках, як і звычайныя сабраньні, толькі непатрэбна папярэдняе паведамленьне ўладаў. Сабраўшыяся на мітынгу могуць толькі задаваць пытаньні паслом.

Паслы апазіцыі спрацівіліся гэтаму, бачучы ў гэтым замах на свабоду пасольскай дзейнасьці; устава ў гэткім відзе дае магчымасьць кожнаму паліцыянту зачыніць пасольскі мітынг. Гэта замах на правы апазыцыі.

Але хьена-пястоўская большасьць адкінула папраўкі апазыцыі і ўхваліла ўставу, згодна з жаданьнямі кс. Лютаслаўскага.

### Інтэрпэляцыя

Пасла кс. А. Станкевіча і таварышоў з Беларускага Клюбу да п. Міністра вайсковых спраў і Міністра справядлівасьці ў справе праступнага чыну, дакананага праз падпаруч. Немчыка з Баону гранічнай стражы № 27 над кс. Антонам Зенкевічам, пробашчам з м. Друі, Дзісеньскага пав.

13-га жніўня 1922 г. у в. Леонполь, Дзісенскага пав. падпаруч. Баону Стражы Гранічнай № 27 п. Немчык дапусьціўся праступнага чыну на асобе кс. А. Зенкевіча, пробашча ў м. Друі, Дзісенскага пав., ранячы яго шабляй у галаву. Дзеля гэтага ніжэйпадпісаныя пытаюцца ў п.п. Міністраў:

1) Ці ведаюць яны аб гэтым факце?

2) Ці маюць замер пацягнуць падпаруч. Немчыка да судовай адказнасьці?

### Прапазыцыя

Паслы опозыцыйных клюбаў унясьлі прапазыцыю ў справе забароны Дэлегатам Ураду ў Вільні адбываць пад адкрытым небам пасольскія сабраньні:

Высокі Сойм захоча ўхваліць:

1) Заклікаецца ўрад да найхутчэйшай адмены гэтага загаду,

2) пацягнуць Дэлегата Ураду ў Вільні да адказнасьці за нарушэньне закона.

## З газэт.

### „Чорны інтэрнацыянал“.

Пад той час, як усе правыя газэты не перастаюць выліваць цэлыя ушаты памыяў на польскіх сацыялістаў з прычыны крывавых выпадкаў на вуліцах Кракава, вінавацючы „лявіцу“ чуць не ў замаху на Рэспубліку,—выяўляюцца дужа „пікантныя“ факты з падпольнае дзейнасьці польскіх манархістаў. Англійская газэта „Manchester Guardian“ абвяшчае, што з баварскімі манархістамі знаходзяцца ў цеснай сувязі і некаторыя польскія дзеячы, якія лятуцяць аб „вялікім зялёным пляне“: правядзеньні манархічнага перавароту адначасна ў Баварыі, Аўстрыі і Польшчы. Пераказываем адкрыцьці „Manch. Guard.“ паводле польскай газэты „Kurjer Polski“.

> Як на цантральны пункт пляну „Manch. Guard.“ паказывае на аб'яднаньне Баварыі з Аўстрыяй, называючы пры гэтым каралеву Зіту і канцлера Сэйпля (—апошні нядауна прыяжджаў у Польшчу.—*Рэд.*), як учасьнікаў пляну. Спаміж палякоў ёсьць тры ўчасьнікі: адзін—выдатны духоўны, вядомы ня толькі ў Польшчы, але і ў Радавай Расеі, дзе нейкі час быў пад арыштам; другі належыць да складу вельмі добра вядомай польскай арыстакратычнай сям'і і мае сувязь з каталіцкімі сфэрамі Францыі, якія цікавяцца гэтай справай. Аб трэцім карэспандэнт „M. G.“ ня мае бліжэйшых ведамасьцяў, апрача прозьвішча, якога не падае.
>
> Вядома, што паводле „вялікага“ зялёнага пляну“ на Польшчу ўскладаецца абавязак трымаць за полы чэхаў, калі-б памкнуліся перашкодзіць злучэньню Аўстрыі з Баварыяй, за што Польшча мае дастаць Усходнія Прусы.

Мы перадруковываем гэту сэнсацыйную вестку, якая, калі і ня зусім згодна з праўдай, дык служыць лішнім доказам манархічнага настрою, які пануе сярод каталіцкага духавенства Аўстрыі, Баварыі, Польшчы і Францыі. Цікава гэтая еднасьць ідэалёгіі „чорнага інтэрнацыяналу“...

## Агляд жыдоускай прэсы.

(*Эха генаральнай забастоўкі.—На варце! — Голас пасла Прылуцкага.—Пасол* Выгодзкі *аб заданьнях „Жыдоўскага Кола“.—„*Высяленьне*“ жыдоў у Баварыі.—Школьны праект „Жыдоўскага Кола“ і жыдоўская дэмакратыя*).

Віленскі работніцкі орган „Unzer Gedank“, абгаварваючы ход генаральнай забастоўкі, констатуе:

> „Дзень 5 і 6 лістапада быў для работніцкай клясы пробаю сілаў. Экзамін здала дужа добра. А цяпер трэба думаць аб барацьбе, адносна да самых жыцьцёвых заданьняў дня. Змаганьне пралетарыяту ўва ўсім краю, — вось заданьне, да якога мы павінны падрыхтавацца“.

Газэта лічыць, што генаральная забастоўка магла-б прыняць больш шырокія разьмеры, каб была кіравана праз аб'яднаны забастовачны камітэт, а не праз адну толькі палітычную партыю (P.P.S.). Што забастоўка ня зусім удалася ў Вільні, „Unzer Gedank“ лічыць, што было на гэта шмат прычын: мала было часу для належнай арганізацыі яго, няхватка адозваў, рэпрэсыі і г. д.

„На варце“—вось сталы аддзел, які вядзе пасол Н. Прылуцкі ў пятнічных нумарох „Momentu“. На гэты раз пасол Прылуцкі абгаварвае Кракаўскія выпадкі і сьцьвярджае:

> „Талеруюцца фашыстаўскія арганізацыі, якія зьяўляюцца небясьпекай для Рэспублікі і дэмакратыі. У гэтым напрамку сучасны ўрад не зьяўляецца ўрадам моцнай рукі. Фінансы знаходзяцца ў цяжкім палажэньні. Ёсьць толькі адна рада — сьцягнуць энэргічна падаткі. Урад, які мае слабую руку, адносна да вялікіх капіталістаў, прамыслоўцаў і абшарнікаў выяўляе моцную руку толькі адносна да дэмакраіты і нацыянальных меншасьцяў. Вастрогі перапоўнены палітычнымі.
>
> Моцнай рукой, якое дамагаецца сэнатар Каскоўскі, зьяўляецца фашызм без фашыстаўскага перавароту. Але-ж ці яшчэ замала гістарычных прыкладаў, якія паказваюць, што ня тудэю йдзе дарога да ўзмацаваньня дзяржавы і давядзеньня яе да росквіту?“

У двох артыкулах пасол Выгодзкі займаецца ў „Unzer Frajndzie“ заданьнямі „Жыдоўскага Кола“.

Найважнейшым заданьнем пасол Выгодзкі лічыць:

> „1) утварэньне эканамічнай аранізацыі для барацьбы з эканамічным антысэмітызмам, стасаваным праз усіх паступовых антысэмітаў, паланізатараў гарадоў і пагромнага „Rozwoju“. Абедзьве арганізацыі „Кола“: эканамічная і культуральная павінна быць з сабою добра скоордынаваны; і 2) утварэньне інформацыйнага бюро, з мэтай спыненьня стасаванага да жыдоў бясправўя. Найважнейшым заданьнем аднак зьяўляецца тое, каб уся орыентацыя „Кола“ была сьцісла дэмакратычнай“.

„Nasz Przegląd“ (орган „Жыдоўскага Кола“) абгаварывае выдаленьне жыдоў у Баварыі і робіць гэткія вывады:

> „Нямецкія правыя партыі тады пераканаюцца, што гвалтоўнае ўпіханьне жыдоў у абсімы „францускага капіталізму“ ня пройдзе бяскарна, што палітычны эфэкт антыжыдоўскіх рэпрэсыяў на міжнародным грунце шмат мацнейшы, чым гэта выдаецца маральна вырадзіўшымся правадыром баварскай казаччыны.
>
> Антысэмітызм у Нямеччыне становіцца грозным зьявішчам. Больш празорныя „чужыя“ жыды ўжо ад даўжэйшага часу ліквідуюць у Бэрліне свае прадпрыемствы і пераяжджаюць да большгасьціннага і танейшага Парыжу. Бо яны ня маюць пэўнасьці ў асабістай небяспецы ў пыпадку выбуху новай дамашняй вайны“.

У „Najer Hajnt“ п. Гольдбэрг у перадавіцы п. наз. „Нямецкія пагромы“ піша:

> „Калісь, у часе нацыяналянай катастрофы немцы прабавалі захавацца, дзякуючы сваім вучыцялём і паэтам; і пасьля вучыцель нямецкі атрымаў вялікую перамогу.
>
> А цяпер, у часе нацыянальнага няшчасьця сабраўся ў Нямеччыне натоўп, каб рабіць жыдоўскія пагромы. Гэта ёсьць адказам запраўднай катастрофы, роспачы і адначасна зьдзічэньня. Гэта ёсьць дужа сумнай адзнакай, адзнакай часу.

У „Unzer Togu“ знаходзім два артыкулы п. Мэламэда, абгаварываючыя крытычныя адносіны жыдоўскай дэмакратыі да школьнага праекту, які высоўвае „Жыдоўскае Кола“

Артыкул канчаецца вось як:

> „Але мы да гэтага ня можам дапусьціць. Ня можа быць гутаркі аб тым, каб беларусы ці украінцы бралі пад увагу гэты праект. А мы жыды, павінны голасна і выразна сказаць: „Ня гэтага мы дамагаемся, ня гэтага дамагаемся мы для нашых дзяцей, для нашай будучыны. Страхоцьцю „Жыдоўскага Кола“ мы павінны працівас‍тавіць ясны праект жыдоўскай школьнай справы“.

**М. Г.**

## З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### ХРОНІКА.

**Агульны Сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту** адбудзецца не ў нядзелю 18 лістапада, як аб гэтым мы паведамілі ў папярэднім нумары нашай газэты, а ў нядзелю 25 **лістапада**, а 4 гадз. па паўдні.

У нядзелю 18 лістапада ў памешканьні Духоўнай сэмінарыі адбудзецца на карысьць незаможных вучняў сэмінарыі вечар. Будуць пастаўлены на рускай мове: „По публикаціи“ і на беларускай мове „Па рэвізыі“. Багаты дывэртысмэнт. Сьпевы, музыка, дэклямацыя і інш. Пасьля танцы, буфэт. Пачатак а 7 гадз. ўвечары.

---

Сябры Т-ва Беларускае Школы, акуратна плацеце свае складкі! Скарбнік прымае ад гадз. 10—2 дня і дзелавод ад 5—7 ў вечары у памешканьні Школьнае Рады.

Беларуская Цэнтральная Школьная Рада ў Вільні маючы па мэце арганізацыю беларускіх пачатковых і сярэдніх школаў, а также беларускіх вучыцельскіх курсаў, аб чым робяцца захады перад Уладай, гэтым зварочваецца да ўсіх настаўнікаў-беларусаў, як працуючых ў школах так і непрацуючых, каб далі аб сабе весткі, запоўніўшы ніжэйпаданую анкету.

1) Імя і прозьвішча.
2) Век, або калі радзіўся.
3) Што скончыў.
4) Стаж (калькі гадоў вучыў і ў якой школе).
5) Ці скончыў беларускія курсы.
6) Як прыгатаваны з полёністыкі.
7) Чым цяпер займаецца.
8) Адрэс.

Запоўніўшы гэткую анкету паводле вышэйпададзенага ўзору Б. Ц. Ш. Р. у Вільні просіць прысылаць яе па адрасу: Wilno, Wileńska 12—6. Białoruska Centralna Rada Szkolna.

Бел. Цэнт. Шк. Рада
ў Вільні.

Урад Беларускага Студэнцкага Саюзу падае да ведама, што ў нядзелю 18 лістапада с. г. а 3-яй гадз. па паўдні ў памешканьні Беларускага Грамадзянскага Сабраньня, Віленская 12, адбудзецца агульны сход сяброў Беларускага Студэнцкага Саюзу.

Пажадана прысутнасьць усіх сяброў Саюзу, як і студэнтаў-беларусоў, новаўступіўшых у Унівэрсытэт.

Парадак дня:

1) Справаздача Ураду Саюзу і Рэвізыйнае Камісіі за мінуўшы год.
2) Выбары новага Ураду Саюзу.
3) Бягучыя справы.

**Забойства і самагубства.** 20-гадовы Абрам Столаў выстралам з рэвальвэру забіў свайго бацьку і мачаху, а пасьля і сам застрэліўся. Прычына забойства ня высьнена.

## Весткі з вёскі.

**М-ка Ікажна,** Дзісенскага павету.

14-га кастрычніка ў нашым мястэчку адбыўся беларускі спэктакль. Згулялі „Паўлінку“ Янкі Купалы й „Заручыны Паўлінкі Ф. Аляхновіча. Мяйсцовая публіка дружна вітала аматараў-артыстаў.

Надта добра адыграла сваю ролю прыгначанай жанчыны й разам кахаючай сваё дзіця Альжбета Крыніцкая (Марыля Вяцірышка). Добра зразумела тып сварлівае бабы Агата Пустарэвічыха (Манька Ракоцішка). Жыва працягнуў ролю самадура Сьцяпан Крыніцкі (Казімір Рыдзік). Якім Сарока (Пятрусь Шпак) у „Паўлінцы“ комкаў сардэчныя пачуцьці, за тое ў „Заручынах“ неспадзявана ўзварушыў гледзячоў сваім маналёгам. Злучэньне прамовы Якіма Сарокі з праявай бацькаўскага каханьня ў шорсткім Сьцяпане Крыніцкім сталася найлепшым пунктам ў гульні артыстаў на працягу абедзьвюх камэдыяў. Добра згулялі й другія выканаўцы, толькі роля Паўлінкі дасталася, здаецца, не па характэру артысткі (Ліды Гарбачонкавай), каторая ў камічных мяйсцох сваей ролі адзначылася добрым выкананьнем, за тое псыхолёгічныя перэжываньні Паўлінкі артыстцы ня ўдаліся. Народныя сьпевы, відаць было, дужа спадабаліся публіцы. Наагул спэктакль зрабіў вельмі добрае ўражаньне на ўсіх.

Ініцыятарамі былі мяйсцовыя хлапцы й дзяўчаты, спаміж каторых найбольш стараньняў і энэргіі даклалі Пятрусь Шпак і Мікола Дварэцкі.

Трэба адзначыць, што ў нашым мястэчку з лёгкай рукі Міхася Гасюля, арганізаваўшага за колькі гадоў перад вайной першы беларускі спэктакль, увайшло ў звычай пры ўселякай магчымасьці ладзіць беларускія спэктаклі. Самі сабой выяўляюцца здольныя выканаўцы, спаміж якіх можна спагледзець вобleскі талентаў. На жаль, агульная бяднота й іншыя прычыны прашкаджаюць шырэй расхінуць гэтую справу.

**Андрэй Лашчэўскі.**

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## З Менску.

**Хворасьць А. Гурло.** Беларускі паэт Алесь Гурло ляжыць ужо каля двух тыдняў ў ўнівэрсытэцкай клініцы. Яму робяць апэрацыю раненай у часе вайны нагі.

**Беларуская мова ў Менскай прафтэхнічнай школе.** У сёлетнім 1923—24 вучэбным годзе ў Менскай аб'яднанай прафтэхшколе ва ўсіх клясах уведзена выкладаньне беларускай мовы.

Вучні шчыра ўзяліся за беларускую мову. Падручнікаў беларускіх хапае: адміністрацыя школы закупіла на 11 чырвонцаў розных беларускіх кніг, падручнікаў.

У другім вучэбным годзе, напэўна, удасца выкладаць некалькі прадметаў на беларускай мове.

**П. А.**

### Зімовы сэзон Бел. Дзярж. Тэатру.

У канцы кастрычніка і ва ўсякім выпадку не пазьней 1 лістапада распачнецца зімовы сэзон Беларускаго Дзяржаўнага Тэатру.

Новы зімовы сэзон тэатр сустрэне куды багацей (па рэпэртуару), чым мінулы. Убачаць сьвет такія новыя пастаноўкі: „Чырвоны дыктатар Беларусі“ (Каліноўскі)—драма Я. Міровіча; „Мешчанін у шляхоцтве“—камэдыя Я.-Б. Мольера; „Гімн працы“—якая ў канцы прошлага сэзону была пару раз паказана ў „закрытых“ спэктаклях; „На Антокалі“—камэдыя Аляхновіча (новая пастаноўка Я. Міровіча): „Чырвоныя кветкі Беларусі“—новая драма Гарбацэвіча (аўтара „Вясельля“); вясёлая камэдыя „Усё будзе добра!“—новага маладога драматурга Рамановіча і гістарычная драма Наз. Бываеўскага з канца XVI веку „З пад ярма прыгону!“

Са старога рэпэртуару пакінуты яшчэ; „У ліпнёвую ноч“, „Пашыліся ў дурні“, „Апостал шатана“, „На Купальле“, „Машэка“ і некаторыя іншыя рэчы.

К сярэдзіне сэзону маецца надзея атрымаць і падгатаваць: твор Я. Купалы „Тутэйшыя“ і драмы Я. Коласа і Забелы.

# Допісы.

## З Літвы.

**Яшчэ дэлегаты ад беларусаў у Амэрыку.** Па ініцыятыве груп прымаўшых удзел у сумесным выступленьні перад Лігай Нацый ад грамадзянстваў: Украінскага, Беларускага, Літоўскага і Немцаў высланых з Польшчы, мае быць сарганізавана камісія, якая выедзе ў Амерыку дзеля азнаямленьня эмігрантаў, названых нацыянальнасьцяў, з палажэньнем іх пабратымаў пад Польшчай. У склад Камісыі ўвойдуць і прадстаўнікі ад беларусаў, знаходзячыхся цяпер у Літве.

# БІБЛІЯГРАФІЯ.

КРЫВІЧ месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця. Пад рэдакцыяй В. Ластоўскага і К. Дуж-Душэўскага. № 4 за 1923 г.

ЗЬМЕСТ № 4.



# Юрыдычныя парады.

**Якіму Кмочніку.** Зьвярнуцца да раяновага інспэктара працы і прасіць дапамогі ў атрыманьні трохмесячнай платы.

**Альжбеце Пачорка.** Найляпей чакаць дзеля таго, што неурэгулеваны курс польскае маркі да расейскага рубля, а таксама і фінансавыя адносіны паміж гэтымі рэспублікамі. Пры жаданьні можна атрымаць за адзін руб. дзьве мар. і 16 пфэнігаў.

**М. Шпаку.** Зьберагацельнай кніжкай ня можна пакрыць ніякіх пазычак.

Раім пры куплі зямлі ад прадаўца ўзяць абавязак звароту ім усялякіх старых пазычак на зямлю.

Банкоўскія пазычкі можна сплаціць Віленскаму Зямельнаму Банку.

### Ахвяры на прэсовы фонд.

Ад грам. Мікуліча—2.000.000 м. п. ад гр. Каналінскага—3.000.000 м. п., ад гр. N гміны Валожынскага пав.—6.485.000 м. п., ад гр. К. з Баранавіч — 5.000.000 м. п., ад гр. Юшкевіча з Амэрыкі 12 даляр.

## Курс на грошы.

**Варшава, 16-га Лістапада.**

(Офіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . . . | 2.100.000 |
| Нямецкая марка . . . . . . | — |
| Фунты штэрл. . . . . . | 9.150.000 |
| Франкі франц. . . . . . . | 106.000 |
| Франкі бэльгійск. . . . . . | 97.250 |
| 10 руб. золатам . . . . . | — |
| Польскі злоты . . . . . . | — |